Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 21 920.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 6 лістапада 1998 г. № 119 (511) Кошт свабодны

# СВАБОДА у Мінску неспакойна

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Шахцёры выйшлі на вуліцу

**У аўторак у Салігорску афіцыйны прафсаюз аб'яднання «Беларуськалій» вывеў на вуліцу 6 тысяч шахцёраў. На гарадскім стадыёне «Будаўнік» адбыўся мітынг, на якім рабочыя патрабавалі ад урада павышэння заробкаў і пенсіяў адпаведна росту цэнаў.**

На наступны дзень (у сераду) салігорскія шахцёры зноў выйшлі на мітынг. Як нам паведаміў адзін з лідэраў Незалежнага прафсаюза Мікалай Зімін, у арганізаваным імі мітынгу ўдзельнічала больш за 3 тысячы чалавек. Патрабаванні Незалежнага прафсаюза былі больш канкрэтныя. У прыватнасці, прафсаюз гарнякоў чакае ад урада рашэння шахцёрскіх праблемаў да 1 снежня. У адваротным выпадку прафсаюз збіраецца аб'явіць у Салігорску перадстрайкавае становішча і заклікаць гарнякоў да забастоўкі. Ультыматум даволі сур'ёзны, калі ўлічыць тое, што Незалежны прафсаюз карыстаецца ў Салігорску немалой папулярнасцю сярод рабочых.

Адзін з вядомых лідэраў рабочага руху Сяргей Антончык паведаміў удзельнікам мітынгу, што ў Мінску цяпер аднаўляецца дзейнасць рэспубліканскага страйкавага камітэта, і прапанаваў шахцёрам дэлегаваць у яго сваіх прадстаўнікоў. Салігорскія гарнякі вырашылі ўвесці ў склад страйкама трох чалавек — старшыню Незалежнага прафсаюза Віктара Бабаеда, ягонага намесніка Аляксандра Каралёва і шахцёра Мікалая Зіміна.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Візіт інспектара з Савета Еўропы

*Сёння завяршаецца візіт у Мінск намесніка старшыні Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Роберта Антрэтэра*

Нагадаем, што Савет Еўропы не прызнаў вынікі апошняга рэферэндуму ў Беларусі. Пасля разгону прэзідэнтам Лукашэнкам легітымнага парламента нашая краіна была пазбаўленая статуса спецыяльна запрошанай у ПАСЕ. Спадар Антрэтэр вывучае цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі для падрыхтоўкі даклада на бюро ПАСЕ.

У першы дзень візіту спадар Антрэтэр сустрэўся з кіраўнікамі абедзвюх палатаў прэзідэнцкага парламента. Анатоль Малафееў адзначыў, што давялося адказваць на шэраг «вострых, прамых пытанняў». Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына запрасіла прысылаць назіральнікаў ПАСЕ на выбары ў мясцовыя саветы Беларусі, якія адбудуцца вясной будучага года.

Намеснік старшыні ПАСЕ пабываў у Генпракуратуры і Канстытуцыйным судзе, а таксама меў гутарку з прадстаўнікамі палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў. Учора яго прыняў міністр замежных справаў Іван Антановіч.

Сёння сп.Антрэтэр сустрэнецца з прэзідэнтам Лукашэнкам.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**Учора ў Мінску прайшла акцыя пратэсту, арганізаваная Свабодным прафсаюзам.**

Акцыя пачалася з мітынгу перад галоўным корпусам Мінскага трактарнага завода. На мітынг сабралася каля 2 тысяч чалавек — рабочыя МТЗ і іншых прадпрыемстваў сталіцы. Яны патрабавалі падвышэння заробкаў і паляпшэння ўмоваў жыцця.

Удзельнікі накіравалі персанальнае запрашэнне на мітынг Аляксандру Лукашэнку, але замест яго прыйшоў намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Іван Пашкевіч. Ён распавёў рабочым, што прэзідэнт пра іх клапоціцца дзень і ноч, і заклікаў не слухацца «штатных мітынгоўшчыкаў-апазіцыянераў». У адказ рабочыя асвісталі Івана Іванавіча. Тым часам, на мітынг падыходзілі ўсё новыя і новыя людзі. Да месца правядзення мітынгу былі сцягнутыя значныя сілы мінскай міліцыі.

Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю, у якой запатрабавалі прадаставіць тэлевізійны эфір Свабоднаму прафсаюзу, павялічыць зарплату да 100 долараў у месяц, а таксама абвясціліі пра стварэнне рэспубліканскага страйкавага камітэта. З гэтай рэзалюцыяй яны разам накіраваліся да будынка «прэзідэнцыі» — каб асабіста выказаць Лукашэнку свае патрабаванні.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



*Гэты здымак быў зроблены нашым карэспандэнтам у Браслаўскім раёне. Там усё спакойна.*

## Рынкі бастуюць

### Мінск

Учора ў Мінску большасць прадпрымальнікаў, якія гандлююць на мінскім рэчавым рынку «Дынама», не выйшлі на працу. У гэты дзень колькасць латочнікаў на стадыёне зменшылася прыкладна ў 10 разоў.

Ініцыятыва зыходзіла ад Рэспубліканскага прафсаюза работнікаў кааператываў, малых прадпрыемстваў і іншых формаў прадпрымальніцтва «Садружнасць». Напярэдадні лідэры прафсаюза распаўсюдзілі зварот да прадпрымальнікаў Мінска і вобласці, у якім заклікалі іх падтрымаць шэсце і мітынг працоўных 5 лістапада, што арганізоўвае Свабодны прафсаюз.

У звароце прафсаюза «Садружнасць» адзначаецца: *«Мы ўсе аднолькава асуджаныя цяперашнім рэжымам на эканамічнае знішчэнне. Закон сёння не служыць інтарэсам працоўных, а дапамагае падманваць рабочых і прадпрымальнікаў. Менавіта таму мы павінны выступіць адзінай сілай з адзінымі патрабаваннямі да ўрада Рэспублікі Беларусь».* На заклік прафсаюза «Садружнасць» адгукнуліся прадпрымальнікі і іншых рынкаў сталіцы — «Чэрвеньскага», дзе зараз гандлююць у асноўным прадуктамі, «Ждановічы», на якім працуюць толькі каля 20 працэнтаў гандляроў, часткова Камароўскага рынку.

### Гродна

4–5 лістапада ў Гродне спыніўся гандаль на абодвух рэчавых рынках — «Цэнтральным» і «Паўднёвым».

Агулам не працавала каля 5 тысяч чалавек. Кожны з прадпрымальнікаў меў за гэтыя два дні 3-4 мільёны рублёў стратаў. Па словах кіраўніка прафсаюза прадпрымальнікаў Валерыя Леванеўскага, яны пайшлі на гэта свядома. Акцыя пратэсту была праведзеная ў знак салідарнасці з рабочым рухам. *«Рабочыя – нашы пакупнікі, мы за тое, каб яны атрымлівалі дастатковую зарплату і маглі нармальна жыць. Да нядаўняга часу шмат хто з нас таксама працаваў на вытворчасці, і нам добра зразумелыя праблемы рабочых»,* — зазначыў В.Леванеўскі.

Да забастоўкі гродзенскіх прадпрымальнікаў далучыліся таксама гандляры ў Мастах.

4—5 лістапада гарадскі рынак тут не працаваў, былі зачынены і ўсе камерцыйныя кіёскі. Толькі адзін з прадпрымальнікаў прадаваў піва. Прафсаюз пагадзіўся, што яму трэба працаваць, паколькі чалавек закупіў 170 літраў піва, якое хутка псуецца. Але, каб не пашкодзіць салідарнасці, ён гандляваў ужо ў канцы дня — пасля заканчэння акцыі пратэсту. 5 лістапада ў Мастах быў праведзены мітынг у абарону правоў працоўных, дазволены ўладамі.

У сераду і чацвер баставаў таксама рынак у Слоніме. Не працавалі рынкі і ў іншых гарадах Беларусі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**
**Генадзь БАРБАРЫЧ**
**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

***УЧОРА** прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус прыбыў на Украіну з двухдзённым афіцыйным візітам, у ходзе якога сустрэнецца з прэзідэнтам Леанідам Кучмам, старшынёй Вярхоўнай Рады Аляксандрам Ткачэнкам, прэм'ер-міністрам Валерыем Пуставойценкам. Запланавана падпісанне шэрагу міжурадавых дакументаў па эканамічным, навукова-тэхнічным і культурным супрацоўніцтве, а таксама наведванне г.Львова.*

***ПАД УПЛЫВАМ** сусветнага фінансавага крызісу галандская кампанія Philips плануе істотна скарацiць колькасць сваіх заводаў. Сёння на 244 заводах Philips у 40 краінах свету працуе 256 тысяч чалавек. Толькі за апошнія тры месяцы гэтага года прыбыткі кампаніі знізіліся на 70 працэнтаў і склалі ўсяго 240 мільёнаў долараў.*

***УЧОРА** па ўсёй Францыі трэці раз прайшлі маршы пратэсту французскіх ліцэістаў. У маршы ўзялі ўдзел сотні тысяч чалавек. Ліцэісты пратэстуюць супраць перагружаных праграмаў, недахопу выкладчыкаў, састарэлага абсталявання, маленькіх аўдыторыяў...*

## Прыехалі «інтэгратары» з Волагды

**Учора з двухдзённым візітам у Беларусь прыехала расійская дэлегацыя Валагодскай вобласці на чале з губернатарам Вячаславам Пазгалёвым.**

Праграма візіту традыцыйная — сустрэчы з прэзідэнтам А.Лукашэнкам, прэм'ерам С.Лінгам, паездкі па беларускіх прадпрыемствах.

*БелаПАН*

## Справа не ў жыллі, а ў прынцыпе

**Кіраўніцтва Злучаных Штатаў пакуль не плануе вяртаць свайго пасла ў Мінск, заявілі ў прэс-службе пасольства ЗША**

Праблема ў тым, што ўсё яшчэ застаюцца нявырашанымі юрыдычныя пытанні існавання рэзідэнцыі пасла. *«ЗША далі зразумець беларускаму ўраду, што справа не ў жыллі, а ў прынцыпах, на якіх нашая і іншыя дзяржавы будуюць свае адносіны з Беларуссю,* — заявілі ў прэс-службе пасольства. — *Рэспубліка Беларусь парушыла Венскую канвенцыю аб дыпламатычных адносінах і ў аднабаковым парадку груба парушыла міжурадавае пагадненне, згодна з якім мы арандавалі рэзідэнцыю ў комплексе «Дразды». Вырашэнне канфлікту вакол гэтай рэзідэнцыі патрабуе аднаўлення належнай юрыдычнай асновы для дзейнасці любой будучай амерыканскай рэзідэнцыі ў Мінску».*

*БелаПАН*

## Самы высокі ганарар

***Амерыканскія ўлады прапанавалі рэкордную ўзнагароду ў 5 мільёнаў долараў таму, хто паспрыяе затрыманню саудаўскага мільянера-тэрарыста Усама бін Ладэна. Усама бін Ладэн абвінавачваецца ў арганізацыі выбухаў у амерыканскіх амбасадах у Кеніі і Танзаніі ў жніўні гэтага года, калі 224 чалавекі было забіта і некалькі тысяч паранена.***



## У Мінск прыедзе Селязнёў

**Спікер расійскай Дзярждумы Генадзь Селязнёў збіраецца з рабочым візітам у Мінск 12—13 лістапада.**

Запрасіў свайго маскоўскага «саюзніка» прэзідэнт Лукашэнка.

У адрозненне ад Кіева, у Мінску Генадзь Селязнёў знойдзе поўнае ўзаемаразуменне. Нядаўна ў Яраслаўлі на парламенцкім сходзе прынятае рашэнне аб утварэнні саюзнага парламента, які будзе пракладваць для А.Лукашэнкі дарогу ў Крэмль. Г.Селязнёў збіраецца абмеркаваць з галоўным «інтэгратарам» планы далейшага аб'яднання Расіі і Беларусі.

**А.Д.**

## Плата за візу – толькі ў валюце

**Пасольства Вялікабрытаніі спыняе прыём консульскага збору ў беларускіх рублях**

Брытанскае пасольства ў Мінску паведаміла пра змены ў правілах афармлення ўязных візаў консульскім аддзелам місіі. З 16 лістапада консульскі збор з грамадзянаў, якія жадаюць наведаць Вялікабрытанію, будзе брацца ў брытанскай валюце. Да апошняга часу гэтае пасольства заставалася адным з нешматлікіх дыпламатычных прадстаўніцтваў, якія прымалі аплату за візавыя і консульскія паслугі ў беларускіх рублях.

Віза, якая дае права на аднаразовы ўезд у Злучанае Каралеўства, будзе каштаваць 33 фунты стэрлінгаў. «Шматразовая» віза тэрмінам на паўгода абыдзецца ў 45 фунтаў, на год — 55 фунтаў стэрлінгаў. Пасольства будзе прымаць консульскі збор у доларах ЗША, выходзячы з крос-курсу Нацыянальнага банка РБ (1,65-1,7 долара за фунт).

*БелаПАН*

## «Дзелавы Віцебск»

Асацыяцыя недзяржаўных прадпрыемстваў Віцебскай вобласці і Віцебскі цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва выпусцілі ў свет першы нумар свайго інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня «Дзелавы Віцебск».

*БелаПАН*

## Сацыял-дэмакраты збяруцца ў Маскве

**У сярэдзіне снежня ў Маскве пройдзе Усходнееўрапейскі сацыял-дэмакратычны форум.**

У ім возьмуць удзел прадстаўнікі сацыял-дэмакратычных партыяў Расіі, Украіны, Латвіі, Казахстана, Грузіі, Арменіі і Украіны. Беларусь будзе прадстаўленая дзвюма партыямі — Народнай Грамады і Беларускай партыяй працы.

*БелаПАН*

## Беларускі цукар з літоўскім прысмакам

**У Слуцку будуць вырабляць цукар з літоўскіх буракоў.**

Гэтая дамоўленасць была дасягнутая падчас візіту намесніка міністра сельскай гаспадаркі Літвы Вітаўтаса Грузаўскаса ў Мінск.

Беларусі выгадна вырабляць цукар з імпартнай сыравіны. 50-70 тысяч тон цукровых буракоў з Літвы ўраджаю 1998 года паступяць на перапрацоўку на Слуцкі альбо нейкі іншы беларускі цукровы завод. Чакаецца, што першая партыя цукру з літоўскіх буракоў будзе выробленая ўжо ў гэтым месяцы.

Згодна з дамоўленасцю, літоўскія вытворцы мусяць самі дастаўляць сыравіну ў Беларусь. Літоўскі бок пагадзіўся разлічвацца валютай за перапрацоўку цукровых буракоў. Гатовы цукар, выраблены ў Беларусі, будзе потым прадавацца ў Расіі. Як паведамляе агенцтва *ELTA*, літоўскім вытворцам таксама выгадна супрацоўнічаць з беларусамі: цукар, выраблены ў Беларусі, можна ўвозіць у Расію, не плацячы мытных пошлінаў. Калі б цукар экспартаваўся ў Расію непасрэдна з Літвы, імпартная пошліна склала б 45 працэнтаў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Пратэстуйце, але толькі на стадыёне

**Цікавае рашэнне прыняў нядаўна Брэсцкі гарвыканкам: любыя масавыя мерапрыемствы цяпер можна праводзіць толькі ў адным месцы — на стадыёне «Будаўнік», які знаходзіцца на ўскраіне горада.**

Актывіст Свабоднага прафсаюза Генадзь Самойленка днямі звярнуўся ў гарвыканкам па дазвол на правядзенне пікетаў у цэнтры горада ў рамках агульнабеларускай акцыі пратэсту. У адказ мэр Брэста Генадзь Масько паведаміў апазіцыянеру, што гарвыканкам вызначыў месцам правядзення мітынгаў, шэсцяў, дэманстрацыяў і нават пікетаў вышэйзначаны стадыён. У цэнтры горада дазваляецца праводзіць толькі дзяржаўныя мерапрыемствы. Так што цяпер не толькі апазіцыя, але, напрыклад, незадаволеныя зарплатай рабочыя могуць выказаць сваё абурэнне ўладай ці заводскай адміністрацыяй толькі на ўскраіне горада.

**Язэп СІНІЦКІ**

## Віктар Кучынскі не будзе сядзець

**У сераду Віктар Кучынскі, шэф дэпартамента па гуманітарнай дапамозе, атрымаў ад прэзідэнта Лукашэнкі важнае даручэнне. Ён павінен тэрмінова павялічыць аб'ём гуманітарнай дапамогі з краінаў Захаду.**

Як сказаў нам В.Кучынскі, дэпартамент будзе працаваць над гэтай задачай разам з міністэрствам замежных справаў. Пошукам новых донараў зоймуцца не толькі пасольствы, але і сам таварыш Кучынскі. Па яго словах, *«седзячы ў кабінетах, нельга шмат зрабіць»*. Дэпартамент маркуе праводзіць канферэнцыі за мяжой, каб знаёміць грамадскасць з *«цяжкім становішчам у нашай краіне, якая пацярпела ад Чарнобыльскай катастрофы»*. Кучынскі заклікае везці ў Беларусь усё: ад цэглы да медыцынскай апаратуры.

Цяпер «гуманітарка» паступае ў Беларусь з 36 краінаў. За ўвесь перыяд службы на сваёй пасадзе В.Кучынскі накіраваў 548 «дакладных запісак» прэзідэнту, які выкарыстоўвае лёс кожнага грузу. Легендарны «гранатамётчык» вельмі задаволены, што прэзідэнцкая камісія, якая нядаўна завяршыла праверку дэпартамента, прызнала яго работу «эфектыўнай».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



*Купляйце бульбу — зімой будзе даражэй. А можа і зусім не будзе?*

## Мінскія «бістро»

**Мінскі гарвыканкам зацвердзіў праграму развіцця прадпрыемстваў хуткага абслугоўвання.**

Плануецца да канца 1999 г. увесці ў эксплуатацыю ў сталіцы 14 «агульнадаступных стацыянарных прадпрыемстваў грамадскага харчавання хуткага абслугоўвання», 47 «мабільных і стацыянарных прадпрыемстваў на базе павільёнаў».

*БелаПАН*

## Сумны рэкорд

**У Гомельскай вобласці зафіксаваны самы высокі ўзровень дзіцячай смяротнасці па Беларусі.**

Паміраюць 17 дзяцей з 1.000 народжаных, тым часам як у сярэднім па краіне — 12. Такія дадзеныя прыводзіліся на калегіі абласнога ўпраўлення аховы здароўя.

*БелаПАН*

## Шклову зробяць еўрарамонт

**Свята беларускіх калгаснікаў — «Дажынкі» ў будучым годзе пройдзе на малой радзіме прэзідэнта, у райцэнтры Шклоў Магілёўскай вобласці.**

На спецыяльнай нарадзе ў Шклове віцэ-прэм'ер Генадзь Навіцкі з захапленнем распавядаў аб грандыёзных планах за некалькі месяцаў ператварыць заштатны Шклоў у прыгожы еўрапейскі горад. Згодна з праектам, у горадзе правядуць рэканструкцыю плошчы, рынка, набярэжнай і парку, будзе адрамантаваная аўтастанцыя, упарадкаваныя вуліцы і тратуары. Арганізатары «Дажынак» узгадалі нават пра тое, што Шклоў — старажытны горад. Каб падкрэсліць гэта, вырашылі аднавіць былую гарадскую ратушу.

Грошай на ўсё спатрэбіцца шмат, таму віцэ-прэм'ер папярэдзіў вертыкальшчыкаў, што ім прыйдзецца «мабілізавацца», каб падрыхтавацца да свята як мае быць. Абяцаў Навіцкі і дапамогу з рэспубліканскага бюджэту.

З помпай, на дзяржаўным узроўні адзначаць заканчэнне жніва стала афіцыйнай традыцыяй у Беларусі. Ура джайнасць год ад году падае, збожжа збіраем усё менш, але гуляем з кожным разам усё гучней.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

*Ініцыятыва*

## Дзень мовы стане штогадовым

**Акцыя «Дзень беларускай мовы без чужога слова», праведзеная днямі ў Беларусі, у будучыні стане штогадовай. Пра гэта заявіў галоўны рэдактар «Нашай Нівы» Сяргей Дубавец.**

Як мы ўжо паведамлялі, 2 лістапада па ініцыятыве «Нашай Нівы» і аднайменнага фонду ў Беларусі ўпершыню праводзілася падобная акцыя, закліканая садзейнічаць пашырэнню сферы ўжывання роднай мовы, у тым ліку і сярод тых, хто валодае ёю на элементарным узроўні. У гэты дзень усім, хто не абыякавы да лёсу роднага слова, прапаноўвалася размаўляць па-беларуску не толькі дома, але і ў грамадскіх месцах. С.Дубавец адзначыў, што акцыя выканала сваю задачу: *«Нашы індывідуальныя назіранні даволі абна_ дзейваюць. У прынцыпе, больш нічога і не трэба, паколькі мы не можам збіраць статыстыку, бо чалавечая душа не падлягае ўліку»*, — сказаў С.Дубавец.

*БелаПАН*

## Самалёт упаў у акіян

### *На Цэйлоне прыблізна ведаюць, дзе ляжыць беларускі Ан-24*

*«Цяпер ужо ясна, што з вашым самалётам адбылося авіяцыйнае здарэнне. Ёсць доказы, што Ан-24 гомельскага авіяатрада, які знік 29 верасня ў небе над Шры-Ланка, упаў у воды Манарскага заліва, побач з паўвостравам Джафна на Цэйлоне»*. Такую інфармацыю паведаміў нашаму карэспандэнту кіраўнік аддзела расследаванняў Міждзяржаўнага авіяцыйнага камітэта (МАК) Георгій Ячнеў, які нядаўна вярнуўся з Шры-Ланка.

Спаслаўшыся на ланкійскага камандуючага ваенна-марскімі сіламі, Георгій Ячнеў паказаў на мапе кропку, дзе хутчэй за ўсё ляжыць беларускі самалёт. Гэта недзе побач з маленькім востравам Ранаціву на захад ад паўвострава Джафна.

Сам самалёт дагэтуль не знойдзены, але якраз у раёне вострава Ранаціву ланкійскія маракі выцягнулі з вады дзве выратавальныя камізэлькі з надпісамі на рускай мове і нумарамі, якія належаць гомельскаму авіяатраду. Яшчэ адным ускосным доказам з'яўляюцца знойдзеныя ў акіяне целы трох загінуўшых ланкійцаў, якія былі пасажырамі таго самалёта.

Прычыны авіякатастрофы па-ранейшаму невядомыя. Камісія, якая расследуе здарэнне, мае на гэты конт некалькі версіяў. Па-першае, у самалёце нешта магло адказаць. У поўным сэнсе на карысць гэтай версіі працуе апошняе паведамленне ад экіпажа, атрыманае пасля 15 хвілінаў палёту. На зямлю паведамлялася, што «пачалася разгерметызацыя салона». Не выключана, што самалёт маглі абстраляць мясцовыя сепаратысты. *«Патрапіць у самалёт са стралковай зброі цяжка, але ў прынцыпе магчыма»*, — кажа Ячнеў. Камісія не выключае, што з-за гэтага магла пачацца разгерметызацыя і адказ бартавых сістэмаў. *«Аднак дакладную прычыну аварыі можна будзе назваць, толькі дастаўшы «чорны ящык» з запісамі аб тым, як працавалі бартавыя сістэмы. Але абследаваць раён магчымага падзення самалёта не ўдаецца з-за баёў з сепаратыстамі»*, — кажа Георгій Ячнеў. Ён запэўніў, што пошукі самалёта будуць працягвацца, і пакуль беларускіх лётчыкаў ніхто загінуўшымі не лічыць.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Профсоюзы: кто друг, а кто враг?

Еще недавно белорусские профсоюзы (и официальные, и независимые), при всем различии подходов, были едины в одном: учитывая полный провал трипартизма в условиях, когда правительство — основной партнер и посредник в переговорах представителей трудящихся с нанимателями об условиях найма — отказывается выполнять свои собственные обязательства, профсоюзы должны воспользоваться своим конституционным правом на протест.

А если говорить попросту, то резкое ухудшение материального положения большинства работающих и практически всех пенсионеров, не оставляет профсоюзам выбора. Надо протестовать, надо проводить акции, надо организовывать массовые выступления. Поэтому еще на фазе подписания Генерального соглашения и отраслевых соглашений между профсоюзами, нанимателями и государственной администрацией различного уровня, в ходе заключения коллективных договоров, профсоюзы, официальные и неофициальные, заявили о своем намерении поэтапно готовиться к осенней массовой акции протеста.

Готовились по-разному. Официальные профсоюзы вели переговоры с правительством, писали письма с изложением своих требований, на которые получали «отписочные» ответы, и проводили социологические исследования. Причем, согласно данным опросов, рядовые члены организаций в большинстве своем выражали готовность принять участие в акциях протеста, будь они организованы профсоюзами.

Но пришел намеченный для «генеральнага страйку» срок, и победили мнения противоположные. Все официальные профсоюзы поспешили отмежеваться от организаторов намеченной акции — Свободного профсоюза. Аргументация была такова: трудящиеся «не созрели» для массового протеста, поэтому, мол, поспешание смерти подобно.

Однако злые языки утверждают, что подлинные причины имеют несколько иную основу. Официальные профсоюзы являются крупными капиталистами. Им принадлежит не только шикарный «небоскреб» на проспекте Машерова, но и дома отдыха, санатории, короче, все то, что может приносить в наше нелегкое время солидную прибыль. А как известно, в нашей стране все, что кому-то принадлежит, может легко отчуждаться.

К тому же сегодня членские взносы официальные профсоюзы взимают в централизованном порядке через бухгалтерии предприятий, что легко может быть отменено. В этом случае взносы будут уплачиваться в индивидуальном порядке, то есть уплачиваться вообще не будут. А коль так, то ряды членов изрядно поредеют, а главное, иссякнет источник для содержания аппарата, без чего, как известно, борцов за права трудящихся быть не может.

Трудно, например, в этой роли представить Владимира Гончарика, потерявшего офис и заработную плату, служебный автомобиль и прочие блага.

Тем временем Свободный профсоюз, которому нечего терять, наоборот, считает, что именно промедление смерти подобно. Ведь если не начинать работу с массами, то можно безвозвратно потерять их доверие. И тогда массовые акции действительно станут невозможными на длительное время, если не навсегда. Потому что доведенный до отчаяния народ не способен на цивилизованную форму протеста, только на бунт. А чем это может обернуться, хорошо известно.

Таким образом, официальные и независимые профсоюзы размежевались, кажется, окончательно. В результате этого, я думаю, авторитет Свободного профсоюза значительно возрастет. Во-вторых, сами рабочие получили возможность для сознательного выбора: писать письма в администрацию президента или требовать того, что им положено по Конституции. Короче, поймут, кто им друг, а кто только нахлебник.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

## *Лісты ў рэдакцыю*

**У НАС У ЛІДЗЕ** праходзіў 26 кастрычніка семінар па праблемах самакіравання. Прыехалі госці з Літвы, у тым ліку мэр аднаго з гарадоў, а вось нашыя «слугі народа» не знайшлі часу, каб прыйсці на семінар. Хаця ім гэта больш патрэбна, чым літоўцам або немцам, якія арганізавалі семінар.

**Лілія САЗАНАВЕЦ**, *г.Ліда*

**ЗУСІМ НЯДАЎНА** (6 кастрычніка) я хацела адправіць віншавальную тэлеграму сваёй сястры на роднай мове. Але на пошце адмовіліся прыняць тэкст, абгрунтаваўшы гэта тым, што ў нас няма на тэлеграфе беларускіх знакаў, акрамя таго, самі яны не ведаюць беларускай мовы. Дык дзе ж яе тады павінны ведаць? У Амерыцы?

**Таццяна БАРЭЛЬ**, *г.Асіповічы*

**ПРОЧИТАЛ** в вашей газете статью Людмилы Грязновой «Оказывается, в Польше кругом нищие». В ней автор опровергает какого-то «палатника» по фамилии Костян, утверждающего, что в Польше подавляющее большинство населения прозябает в нищете.

Критика Л.Грязновой убедительная, хотя и эмоциональная. Но с чем нельзя согласиться, так это с советом «снизойти с палатной трибуны» и съездить в Польшу. Тогда, мол, откроются глаза, и товарищ Костян вместо поляков станет сочувствовать белорусам. Уважаемая госпожа Грязнова, не будет этого никогда, не дождетесь вы сочувствия по этому поводу. В Польше ведь за последние годы не побывал разве что самый нелюбопытный из рядовых граждан. А уж «палатники», «вертикальщики» и прочие слуги государевы ездили за границу для изучения чужого опыта и по одиночке, и косяками. А что-нибудь путное они сделали, чтобы у белорусов жизнь была как у людей?

Нет, и никогда не сделают. У них ведь и профессия совпадает с хобби. В том смысле, что хобби (шоп- и прочий туризм, комфортабельный быт и питание) хозяин оплачивает тем лучше, чем больше грязи такой путешественник выльет на оказавшую ему гостеприимство страну.

Да и белорусские порядки они друг перед другом нахваливают не потому, что бескорыстно любят Беларусь. Они любят ту Беларусь, которая позволила стать кому министром, кому «сенатором», а кому и президентом.

**Константин СМОЛЕВИЧ**, *г.Минск*

# Бедны народ

## *Цяжэй за ўсіх пенсіянерам і інвалідам*



Гэтая бедная бабулька часта стаіць каля мінскага стадыёна «Дынама», просячы міласціну. Але цяпер на рынак прыходзіць няшмат пакупнікоў, ды і народ стаў бяднейшы. Таму рэдка хто спыняецца каля бабулі, каб ахвяраваць тысячу—дзве (больш, як правіла, не даюць).



На вуліцы Народнай у Мінску працуе дабрачынная сталоўка. Каля трохсот пенсіянераў харчуюцца тут штодзённа па талонах, якія атрымліваюць у царкве Аляксандра Неўскага, касцёле святых Сымона і Алены і ў органах сацзабеспячэння двух мінскіх раёнаў.



Бабулі, якія збіраюць міласціну каля адной з мінскіх цэркваў, у канцы дня падлічваюць «выручку», каб падзяліць пароўну.

**ВО ВСЕХ ГАЗЕТАХ** пишут, что цены у нас растут по причине финансового кризиса в России. Но ведь это явная ложь. У нас цены и раньше все время росли и растут, потому что наше бездарное руководство давно загнало Беларусь в глубокий экономический кризис. Ведь Россия нас не снабжает продовольствием — так почему не хватает продуктов, почему они постоянно дорожают?

Я был в августе и сентябре на Украине. Про все области сказать не могу, но в южных областях (Днепропетровской, Винницкой, Кировоградской, Запорожской, Херсонской, Николаевской) многие цены на продукты ниже, чем у нас. Во время кризиса в России цены на Украине не возросли и остались прежними, не так как у нас. Украинцы говорят: Россия же нас продуктами не обеспечивает...

Когда я был на Украине, в Киев как раз приезжал президент Франции Жак Ширак. Именно он способствовал тому, чтобы Украина как можно быстрее получила западный кредит. И в сентябре поступила первая порция — два с лишним миллиарда долларов. Это позволило Украине в трудной ситуации не допустить обвала национальной валюты.

А нам никто не даст никаких кредитов, никто из лидеров богатых западных стран не поедет в Минск, потому что Лукашенко перегрулся со всем цивилизованным миром и думает только о том, как бы пробраться в Кремль. От амбиций одного человека страдает целый народ.

**Иван САВИЦКИЙ**, *г.Гродно*

# Пракуроры ўзяліся за гісторыкаў

**Пракуратура зноў абараняе «гонар і годнасць прэзідэнта Лукашэнкі». Аб'ектам даследавання пракурораў сталі матэрыялы міжнароднай канферэнцыі, якая прайшла ў Мінску восем месяцаў таму.**

Падзеі развіваліся наступным чынам. 28 лютага 1998 года Беларускім Хельсінкскім камітэтам і Беларускай асацыяцыяй ахвяраў палітычных рэпрэсіяў была праведзеная міжнародная канферэнцыя «Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі. 1917—1997 гады». У ёй прынялі ўдзел больш за 50 навукоўцаў, якія займаюцца вывучэннем гісторыі рэпрэсіяў, журналісты, юрысты, псіхолагі з 15 краінаў свету, а таксама ахвяры рэпрэсіяў.

Канферэнцыя атрымала вялікі рэзананс у грамадстве. Яшчэ да яе пачатку ў дзяржаўнай «Народнай газеце» з'явілася публікацыя гісторыка Залескага, у якой заяўлялася: *«Если судить по названию конференции, то вряд ли на ней будут рассмотрены вопросы освещения преступлений против коренных интересов трудящихся. Устроители конференции попытаются обвинить в политических репрессиях государственные власти Республики Беларусь».* Акрамя таго, гісторык Залескі сцвярджаў, што рэпрэсіі былі палітычна абгрунтаваныя. Пазней у той жа «Народнай газеце» была апублікаваная заметка Галіны Рузавай «Кто хочет реабилитировать полицаев», у якой Хельсінкскі камітэт абвінавачваўся ў прафашысцкіх дзеяннях і выказваннях.

І вось зусім нядаўна, 22 кастрычніка, адстаўныя генералы А.Баранкевіч і А.Новікаў, а таксама мастак М.Савіцкі, гісторык А.Залескі і іншыя звярнуліся да генеральнага пракурора Беларусі з лістом, у якім *«просят правоохранительные органы защитить честь и достоинство президента А.Лукашенко, привлечь к уголовной ответственности авторов книги «Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі. Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі».*

24 кастрычніка генеральны пракурор Алег Бажэлка заявіў на прэс-канферэнцыі, што пракуратура не ўстанавіла, хто пахаваны ў Курапатах: ахвяры камуністычных альбо фашысцкіх рэпрэсіяў. Пры гэтым ён адзначыў, што *«в период с 1988-го по 1995 год расследование проводилось крайне односторонне, под сильным давлением определенных сил: проводились митинги, демонстрации, организовывались публикации в СМИ, печатались книги, не последнюю роль сыграли специалисты из Института археологии Академии наук во главе с Зеноном Пазняком».*

2 лістапада Мінская гарадская пракуратура накіравала запыт у БХК з просьбай прысласць на азнаямленне матэрыялы канферэнцыі.

3 лістапада кіраўніцтва Акадэміі навук пачало «разбірацца» з супрацоўнікамі Інстытута гісторыі АН, якія выступалі з дакладамі на той канферэнцыі.

Беларускі Хельсінкскі камітэт лічыць, што пачалася дзяржаўная кампанія па рэабілітацыі самых зморчных старонак беларускай гісторыі, калі ў выніку бальшавіцкіх рэпрэсіяў былі забітыя мільёны нашых суграмадзянаў. Гэта быў супраўдны генацыд савецкай улады супраць уласнага народа.

Ад спробы замаўчаць рэпрэсіі да спробы развязаць новыя — адзін крок. Масавыя парушэнні асноўных правоў чалавека, правал эканамічнай палітыкі, нарастанне сацыяльнай напружанасці, рэзкае зніжэнне ўзроўню жыцця даюць спрыяльную глебу для ўвядзення жорсткага рэжыму, пошуку «ворагаў», вінаватых у народных бедах.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

*Рейтинги белорусских политиков в российской прессе*

# Самые влиятельные

Эксперты «Независимой газеты» ежемесячно составляют список 50-ти самых влиятельных политиков Беларуси. В сентябрьском рейтинге, как и раньше, с отрывом почти в три балла лидирует **А.Лукашенко**. За ним следуют семь его ближайших сподвижников: госсекретарь СБ **В.Шейман**, глава администрации президента **М.Мясникович**, премьер-министр **С.Линг**, управляющий делами президента **И.Титенков**, председатель Комитета государственного контроля **Н.Домашкевич**, министр иностранных дел **И.Антонович** и отвечающий за идеологию **В.Заметалин**.

Замыкают первую десятку мэр Минска **В.Ермошин** и митрополит Филарет. Газета полагает, что *«высокий политический рейтинг церковного иерарха вполне объясним. А.Лукашенко фактически отказался от идеи создания новой государственной идеологии и все больший упор в своей практической деятельности делает на традиционные — как православные, так и социалистические ценности».*

Во вторую десятку от оппозиции вошли бывший заместитель председателя Верховного Совета **Г.Карпенко**, от общественных организаций — председатель Федерации профсоюзов **В.Гончарик** и председатель профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения **А.Бухвостов**. По политическим взглядам Гончарика можно отнести к умеренной системной оппозиции, а Бухвостова к оппозиции более радикальной, отмечает газета.

Среди общественных организаций в сентябре, как и в июле и в августе, наиболее влиятельной была Федерация профсоюзов Беларуси, затем — Белорусский Народный Фронт, Объединенная гражданская партия, движение «Хартия-97», Белорусская социал-демократическая партия «Грамада».

По мнению экспертов «Независимой газеты», наиболее вероятным (и скорее всего, единственным) кандидатом от партии власти на будущих президентских выборах будет А.Лукашенко. Его соперниками могут быть: либералы Г.Карпенко, В.Гончар, коммунист С.Калякин, национал-демократ З.Пазьняк, социал-демократ Н.Статкевич.

**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

*Украина*

# Если бы выборы были завтра

**Четверть избирателей Украины сегодня еще не определились, за кого будут голосовать на предстоящих осенью 1999 года президентских выборах.**

Как свидетельствуют результаты опроса, проведенного Киевским международным институтом социологии, за нынешнего президента Леонида Кучму готовы отдать свои голоса 15% опрошенных. Далее следуют бывший председатель Верховной Рады, лидер социалистов Александр Мороз (11,6%), лидер коммунистов Петр Симоненко (9%), руководитель Прогрессивно-социалистической партии Наталья Витренко (6,9%).

За лидера Руха Вячеслава Чорновила проголосовали бы 4,1%, за экс-премьера Евгения Марчука — 2,9%, экс-министра юстиции Сергея Головатого — 2,7%. Спикер украинского парламента Александр Ткаченко набрал бы 1,6% голосов.

Только 7,6% избирателей не намерены принимать участие в голосовании, против всех проголосуют 11,5%.

**Б.П.**

*КАДРЫ*



На «Габелене стагоддзя» іконападобны Аляксандр Лукашэнка прысягае на Канстытуцыі: *«Заступаючы на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, урачыста клянуся служыць народу Рэспублікі Беларусь, выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, добрасумленна выконваць ускладзеныя на мяне высокія абавязкі. Лукашэнка А.Р.»*

## ARCHE — «Пачатак»

**Выйшаў з друку першы нумар новага беларускага літаратурнага часопіса ARCHE — «Пачатак».**

Гэта сапраўдны «тоўсты часопіс», які друкуе цэлыя раманы, занадта інтэлектуальныя эсэ і творы эксперыментальнай літаратуры. З замежных аўтараў рэдакцыя выбірае модных філосафаў ды авангардных празаікаў (за якасць перакладаў можна не хвалявацца, бо сярод членаў рэдкалегіі — Васіль Сёмуха). Айчынная літаратура ў першым нумары прадстаўлена «жаночай» прозай і творчасцю Адама Глобуса.

Пегарнуць старонкі новага часопіса і пагутарыць з галоўным рэдактарам В.Булгакавым вы зможаце на прэзентацыі *ARCHE*, якая адбудзецца **10 лістапада ў 18:30** у актавай зале бібліятэкі імя Янкі Купалы.

**Г.Ш.**

# «Вялікая Сербія» са сталіцай у Мінску?

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**



У нас у Гродне людзі, як правіла, адчуваюць сябе спачатку еўрапейцамі, а потым ужо славянамі, а не наадварот. Сталічную панславянскую газеціну не бяруць. У кіёсках часам па пяць нумароў запар каля самага акенца марна вабяць сваёй кідкай чырвонай шыльдай. І гэта, як высвятляецца, не выпадкова. Журналісты мясцовай газеты «Биржа Информации» правялі тэлефоннае апытанне на тэму: «Чым Беларусь можа дапамагчы Югаславіі?»

Са ста гараджан амаль палова адказалі рашуча адмоўна: сербам дапамагаць не трэба. Іншыя гаварылі, што ім увогуле нецікавыя югаслаўскія праблемы. І толькі трэць гродзенцаў падтрымалі ідэю дапамогі «братняму славянскаму народу». Але зноў-такі, большасць за дапамогу «маральную». Маўляў, мы самі бедныя, грошай няма, бульбы кепскі ўраджай сабралі. Праўда, нехта са спачуваючых выказаў меркаванне, што сербам яшчэ цяжэй, чымсьці нам, а таму яны і бульбе нашай будуць рады.

Дзіўная сітуацыя. Або грамадзяне не слухаюць афіцыйных рупараў прапаганды, альбо ўсё ж не вераць ім цалкам, разумеюць усё па-свойму. Вось жа па дзяржаўным радыё гучна выступае прадстаўнік прэзідэнцкай палаты, які наведаў «бедную» Сербію. І што ж ён гаворыць? А тое, што, не зважаючы на 5-гадовую эканамічную аблогу, сербы здолелі завaліць крамы мясам, каўбасамі, сырам і цяпер няма ніякіх чэргаў.

Дык хто і каму дапамагаць павінен, калі ў нашых крамах альбо няма нічога, альбо чэргі? Дэпутат як бы намякае пры гэтым, што і мы, калі адгародзімся ад усяго цывілізаванага свету, зможам стварыць каўбасны рай. Праўда, сербы, як ён прызнаецца, дасягнулі гэтага без калгасаў, а дзякуючы прыватнай ініцыятыве — моцнаму развіццю фермерства, якое ў нас ледзьве дыхае.

У жыхароў Гродна ваяўнічыя настроі адсутнічаюць. Толькі пару чалавек адказалі, што сербам трэба аддаць сваю зброю. А тым часам прэзідэнцкі дэпутат якраз прагнуў панюхаць пораху. Заявіў, што ён гатовы асабіста ўзначаліць «добровольческий отряд», каб паехаць у Косава «сражаться за Белоруссию».

Напярэдадні апошніх падзей у Новай Югаславіі адна досыць дэмакратычная мінская газета расказала пра наёмніка, які ваяваў раней на баку сербаў. З тэксту літаральна вынікала, што сербаў забіваць кепска, а іхніх суседзяў — можна, бо яны не праваслаўныя. Газета пры гэтым не патлумачыла, што наёмнік — гэта чалавек, які забівае за грошы. Прычым усё адно дзе, абы больш плацілі.

Некалькі гадоў таму ў Сербію часта наведваліся лімонавы і жырыноўцы. Марылі «падараваць» сербам атамную бомбу за тое, што яны праваслаўныя. Цяпер ездзяць не менш адыёзныя бабурыны, пасля сумеснага вяжу з якімі дэпутат мінскай палаты заяўляе наступнае. З расійскімі таварышамі, маўляў, узгоднена: будзем ствараць «Вялікую Сербію», з дзяржаўнай мовай украінскай, рускім прэзідэнтам і сталіцай у Мінску. Напэўна, гэта прагучала абразліва для нашага прэзідэнта, які, як вядома, нерускі — як і ўсе мы, беларусы. Адразу прагучала абвержанне — «траістага пакта» не будзе, Югаславія пакуль не далучаецца да беларуска-рускага саюза.

Сімптаматычна, што тыя, хто не чуў выступу ваяўнічага дэпутата палаты, не верылі мне наконт вар'яцкага пражэкта пра «Вялікую Сербію», хаця размаўляў я пераважна з калегамі-журналістамі. «Палата нумар шэсць», — жартавалі яны. Падабенства сапраўды ёсць: нашы ўлады таксама пазбаўленыя здаровага пачуцця гумару, у іх усё на поўным сур'ёзе — любыя напалеонаўскія планы. Ніхто ніколі не прызнаецца, што ўсё гэта ахінея, і народу не дазваляюць пасмяяцца з самых сябе. Іншая справа палякі, якія забыліся, што такое цэнзура. Уключаеш польскі канал і глядзіш «тэлекабарэ», у якім высмейваецца імкненне ўладаў чым хутчэй трапіць у НАТО. Хаця ўсім ясна, што дзякуючы гэтаму палякі будуць адчуваць сябе значна больш упэўнена. На выпадак, калі розныя «напалеончыкі» захочуць узброіць атамнай бомбай усіх праваслаўных або яшчэ каго-небудзь.

